


Не шкадуй сябе — гэта самая гордая, самая прыгожая мудрасць на зямлі. Няхай жыве чалавек, які не ўмее шкадаваць сябе!

*М. Горкі*

Нельга адгарадзіцца ад жыцця, кожны чалавек — частка акружаючага яго жыцця і непазбежна павінен быць звязаны з ім.

*Ч. Дзікенс*

# Ніва

Тыднёвік Беларускага грамадска-культурнага таварыства

№ 34 (1017) ГОД XX 24 ЖНІЎНЯ 1975 г. ЦАНА 60 гр.



*Сямяцічы.* *Фота Я. Цялушэцкага.*




Лёс не найлепш абдзяліў сялян вёскі Нурэц у Нурэцкай гміне. Зямля ў іх слабая, пясочная, сенажацяў мала, а значная частка іх знаходзіцца вельмі далёка — кіламетраў пяць за вёскай. Таму нялёгка жывецца тут хлебаробам. Яшчэ цяпер суседзі нурчакоў з навакольных вёсак успамінаюць часам насмешлівую пагаворку, якая мела характарызаваць гаспадароў з Нурца:

Пасеяў я грэчку,
Купіў свінню, авечку,
Ды курэй некалькі пар
І ўжо я г а с п а д а р.

Зараз за вёскай праходзіць чыгунка, бліскучымі рэйкамі маніць у далёкі свет, заахвочвае да пошукаў лепшай долі.

— Там лепш, дзе нас няма!

І жыхары вёскі Нурэц сапраўды падаліся на чыгунку.

— У нас з кожнай хаты хтосьці працуе на чыгунцы, — гаворыць солтыс вёскі Віктар Бартнічук і праз хвіліну яшчэ дадае: — А калі не на чыгунцы, дык на нурэцкім тартаку, або ў мілейчыцкай кафлярні.



*Віктар Бартнічук, солтыс вёскі Нурэц у Нурэцкай гміне, прадае аднавяскоўцам мінеральныя ўгнаенні.*

У вёсцы Нурэц жыве амаль 50 сем'яў. І толькі дзве сям'і займаюцца выключна хлебаробствам. Адной з іх з'яўляецца сям'я солтыса Бартнічука. Упершыню пачуў я пра яго напрадвесні, калі ваяводскія ўлады склікалі ў Беласток усіх перадавых сялян даўнейшага Беластоцкага ваяводства, каб падзякаваць ім за выдатную працу, за высокія ўраджаі. Сярод узнагароджаных апынуўся тады і Віктар Бартнічук. Сваёй працай заслужыў ён грамадскай пашаны, **стаў чалавекам, заслужаным для Беласточчыны.**

Праз некалькі месяцаў сустрэў я яго ў роднай вёсцы. Вітаў ён мяне на ўласным падворку, пачарнелы ад загару. Пад плотам на яго панадворку я перш за ўсё заўважыў аграмадную горбу мяшкоў з мінеральнымі ўгнаеннямі. У ліпені яны найтаннейшыя. „Дбайны гаспадар, — падумаў я. — Толькі навошта яму аж столькі амонавай салітры?“

— Гэтыя ўгнаенні прадаю я нурэцкім сялянам, — паясніў Віктар Бартнічук. — Мілейчыцкі ГС абсталяваў у мяне свой камісійны пункт па продажы мінеральных угнаенняў.

Якая ж выгада сялянам. У сваёй вёсцы да солтыса можна заехаць за „штучнымі навозамі“ ў любы час, калі захочаш.

— Пасля таго, як у 1971 годзе правялі ў нас камасацыю цераспалосіцы, — гаворыць солтыс, — нашы сяляне не шкадуюць грошай на мінеральныя ўгнаенні.

— То і праўда, — уключылася ў нашу гутарку солтысава маці, бабулька Дамініка, якой ужо 77 гадоў. — Сыплюць цяпер гэтага попелу, што аж страх. Але збожжа затое расце зусім інакш. У поўны рост чалавека.

**(Працяг на стар. 4)**






Хачу напісаць манаграфію пра сваё сяло Тыневічы Вялікія і паказаць людзям яго такім, якім яно ёсць у сапраўднасці. Бо надта ж крыўдна чытаць пра яго такія „сенсацыйныя“ ды „адкрыўчыя“ артыкулы, як *„Адыдзіце ад нас усе жахі“*, што змясціў В. Адамецкі ў красавіцкім нумары „Кантрастаў“ за бягучы год. У Тыневічах Вялікіх не прыблуда-манах з'яўляецца асноўным героем, і іншыя жыхары таксама не выкапні з эпохі колатага каменя. З нашага сяла выйшлі дзесяткі адукаваных людзей. Вось хоць бы для прыкладу: Л. Карпюк — магістр рускай філалогіі, М. Самоцік — магістр эканоміі, Дзмітры Абрамюк — інжынер і іншыя. Не ўспамінаю ўжо пра тых, што закончылі тэхнікумы і іншыя сярэднія школы. І вёска і яе наваколле таксама змянілася. Праведзена меліярацыя, падвоіліся ўраджаі, развіваецца жывёлагадоўля.




Цяпер добра працуе сельскагаспадарчы гурток і сельскагаспадарчы кааператыў. Электрычнае святло, крама, машыны ў полі і дома. І тыневічане — людзі працавітыя і дбайныя. Так, надта ж хацела б я напісаць праўду аб сваім родным сяле. Цяпер я — студэнтка чацвёртага курса завочнага аддзялення беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта. Неўзабаве пачну працаваць над дыпломнай работай і, калі б гэта была тэма аб маім сяле, я працавала б над ёю, забыўшыся пра ўсё на свеце...

Настаўніца беларускай і рускай мовы пачатковай школы імя А. Фларэнкі ў Гайнаўцы **Вольга Андраюк** з'яўляецца выхаванкай Бельскага беларускага ліцэя. Надта ж любіла і любіць беларускую літаратуру і мову, у ліцэі ў яе заўсёды былі пяцёркі па гэтаму прадмету. У 1959 г. закончыла з адзначэннем аддзяленне беларускай філалогіі Завочнай настаўніцкай студыі ў Беластоку. Ужо 19 год працуе настаўніцай. Вучыла ў Барысаўцы, потым у Курашаве і ўжо 12 год як у Гайнаўцы. Была на настаўніцкім курсе ў Мінску ў 1960 г.

— Беларускай мове вучу ў IV класе. На мой прадмет ходзіць 10 асоб. Вельмі ахвотна вучацца. Цяжкасці? Што ж, яны не малыя, бо дзеці чуюць беларускую мову толькі на маіх уроках, а ўсюды карыстаюцца польскай мовай. Таму і вучыць іх трэба ад асноў. З падручнікаў падбіраю лёгкія тэксты, займальныя, без цяжкай лексікі, пераважна такія, што прыгодны да чытання з падзелам на ролі, да інсцэніровак. На вынікі навучання не магу наракаць. Бацькі пасылаюць дзяцей на беларускую мову, бо, па-першае, хочуць, каб дзеці ведалі сваю родную мову, а, па-другое, намерваюцца паслаць іх далей вучыцца ў Гайнаўскі беларускі ліцэй.

У В. Андраюк, апрача працы ў школе і вучобы ва ўніверсітэце, немалыя абавязкі і дома: дзеці — школьнікі: Юрка ў VII класе, а Ірынка ў VI. Яны разам з мужам будуюць сабе домік. А і хворым бацькам, што жывуць у Тыневічах Вялікіх, таксама трэба дапамагчы і пры сенакосе, і ў жніво, і ў

**(Працяг на стар. 2)**



**КАРЭСПАНДЭНЦЫЯ З МІНСКА.**

# ДОМ РАДАСНАЙ УРАЧЫСТАСЦІ

У кожную раніцу ля гэтага дома бачны картэжы ўпрыгожаных аўтамабіляў. Гаманяць шчаслівыя галасы, чуваць урачыстая музыка. Вуліца перад домам запоўнена натоўпам па-святочнаму апранутых людзей. У кожнага ў руках кветкі, на тварах мілыя ўсмешкі. Выглядае на тое, што ўсе гэтыя людзі зыйшліся сюды на нейкае свята. Так. Сярод святочнага натоўпу мільгаюць белыя, лёгкія сукні дзяўчат, а поруч з імі — элегантныя хлопцы ў цёмных касцюмах. Вы, відаць ужо здагадаліся, што дзяўчаты ў белым і хлопцы ў зграбных касцюмах — гэта ніхто іншыя, як жаніхі і нявесты. З хваляваннем пераступаюць яны парог гмаху, ля ўваходу якога золатам паблісквае надпіс: „МІНСКІ ДОМ ШЛЮБАЎ“.

Давайце і мы, следам за адной з маладых пар, увойдзем у гэты дом. Цішыня. Толькі зрэдку ледзь чутнай хваляй прабягаюць шэпты. У вялікай гасціннай Дома шлюбаў — бацькі, сваякі, блізкія, сябры жаніха і нявесты. Але чаму не відаць саміх вінаватых гэтай урачыстасці? О, паводле традыцыйнага звычаю, на некалькі хвілін да пачатку шлюбнага абраду іх разлучылі: яна са сваімі сяброўкамі знаходзіцца у пакоі для нявесты, а ён з сябрамі — у пакоі для жаніхоў...

Але вось дырэктар Дома шлюбаў Таццяна Анісімава запрашае жаніха і нявесту ў Залу ўрачыстых абрадаў. Чуюцца гукі музыкі. Па дывановай дарожцы шлюбная працэсія ўваходзіць у залітую блакітным святлом залу, аздобленую гербам Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі. Пачынаецца ўрачыстая цырымонія рэгістрацыі шлюбу. Маладажонаў вітае дэпутат Цэнтральнага раённага Савета дэпутатаў працоўных г. Мінска Вера Рафальская.

Яна кажа:

— Сёння ў вашым жыцці, у жыцці вашых сваякоў і блізкіх шчаслівы дзень, які запамятаецца вам на ўсё жыццё. Сёння вы ствараеце яшчэ адну новую сям'ю. Жывіце згодна, шчырым сэрцам успрымайце радасць і гора. Жыццё бясконца прыгожае, але яно не байка, а рэчаіснасць — складаная, патрабавальная. Стаўшы мужам і жонкай, памятайце, што ніякія цяжкасці не павінны пахіснуць вашым сапраўдным узаемным каханнем... Дарагія сябры! Ідзіце па жыццёвай дарозе згодна, добра працуйце дзеля славы нашай вялікай Айчыны!

Далей дэпутат аб'яўляе, што ў адпаведнасці з Кодэксам законаў Беларускай ССР аб шлюбе, сям'і і апецы — шлюб паміж жаніхом і нявестай зарэгістраваны. Маладажонаў просяць



*Праз некалькі хвілін яны стануць мужам і жонкай.*




*І вось сямейны саюз замацаваны подпісамі ў Пасведчанні аб шлюбе.*

*— За шчасце маладых!*

да стала замацаваць свой сямейны саюз подпісамі. Затым яны абменьваюцца шлюбнымі пярсцёнкамі. Зноў гучыць музыка. У чарах пеніцца шампанскае. Прысутныя выказваюць тосты ў гонар маладой шлюбнай пары. Тут жа пачынаецца гутарка аб шлюбным падарожжы маладажонаў. Не будзем залішне цікаўнымі гэтай гутаркі, першых супольных спраў новай сям'і.

Нам цікавей будзе цяпер пагутарыць з кіраўніком спраў Дома шлюбаў Верай Бердашкевіч.

— Чым вытлумачыць, што многія маладыя людзі хочуць прайсці шлюбны абрад менавіта ў вашым Доме? — цікавімся.

— Перш за ўсё таму, што ў нас асаблівыя вясельныя рытуалы. Яны незвычайна яркія, пакідаюць уражанне на доўгія гады. Паводле склаўшайся традыцыі маладую пару кожны раз вітае прадстаўнік гарадскога, раённых Саветаў дэпутатаў працоўных.

Мы развітваемся з Верай Бердашкевіч. Выходзім на вуліцу. Ля Дома шлюбаў, як заўсёды, святочнае ажыўленне. Раз-по-раз заязджаюць пад Дом упрыгожаныя гірляндамі кветак аўтамабілі. З іх выходзяць усхваляваныя жаніхі і нявесты. Няхай іх жыццёвая дарога заўсёды будзе радаснай і шчаслівай.

**Аляксандр Кійранен**
**Фота У. Казлова**

---

## ШТО НОВАГА?

### СУПРАЦЬ КАГО ЎЗБРОЙВАЕЦЦА ПІНАЧЭТ

Натоўпы жабракоў на вуліцах гарадоў — першае, што кідаецца ў вочы чалавеку, які прыехаў у Чылі, піша газета „Нью-Йорк таймс“. Многія жыхары Сант'яга выстрайваюцца раніцай ля будынка так званай „службы па пытаннях занятасці“ ў надзеі атрымаць якую-небудзь работу.

Фашысцкая хунта давяла Чылі да эканамічнай катастрофы. У краіне не хапае прадуктаў харчавання, тавараў першай неабходнасці. Многім тысячам чылійскіх сем'яў няма чаго есці. Цана на хлеб узрасла ў 20 разоў, на малако — у 22, на цукар — амаль у 30, на рыс — у 53 разы.

Інфляцыя, якая бушуе ў Чылі, пабіла ўсе рэкорды. Толькі за мінулы год, паводле сведчання замежнага друку, яна склала 600 працэнтаў. За пяць месяцаў гэтага года праведзена дзесяць дэвальвацый нацыянальнай грашовай адзінкі — эскуда.

Спрабуючы выйсці з эканамічнага тупіка, хунта распрадае нацыянальныя багацці. Афіцыйны орган рэжыму Пінача газета „Меркурыю“ нядаўна паведаміла, што ў Чылі дазволен продаж любой дзяржаўнай маёмасці за выключэннем уласнасці ўрадавых устаноў. Для паскарэння здзелак фашысцкія генералы прымаюць грошы ў растэрміноўку. Ідуць з малатка фабрыкі, заводы і землі — усё, што пры ўрадзе Сальвадора Альендэ было ўласнасцю народа. З 460 дзяржаўных прадпрыемстваў 340 ужо перададзены ў прыватныя рукі.

Куды ж укладваюцца выручаныя такім чынам сродкі? Як паведамляе замежная прэса, толькі за першы год кіравання хунта патраціла 500 мільёнаў долараў на танкі, самалёты, эсмінцы, падводныя лодкі і іншую ваенную тэхніку. Ваенныя расходы складаюць палавіну дзяржаўнага бюджэту. Аднак і гэтага цяпер ужо недастаткова для фінансавання хутка растучага ваеннага апарату. Узброеныя сілы зараз налічваюць 105 тысяч чалавек.

З розных замежных крыніц вядома, што ў Чылі з ЗША паступіла вялікая колькасць танкаў тыпу „М-60“. Ваенна-прамысловы комплекс ФРГ пастаўляе хунце лёгкую вогнестрэльную зброю. Ваенна-марскія сілы папоўніліся двума эсмінцамі, аснашчанымі амерыканскімі ракетамі, і дзвюма падводнымі лодкамі. У Англіі закуплена два ракетаносцы і дзве падводныя лодкі. Ізраіль пастаўляе чылійскаму флоту ракеты класа „мора-мора“. Усяго ВМС налічваюць 40 караблёў. За кошт заказаў у краінах НАТО колькасць баявых самалётаў у ВПС Чылі ўзрасла з 200 да 326. Праз амерыканскага ваенна-паветранага аташэ ў Сант'яга хунта заказала ў ЗША 96 знішчальнікаў-бамбардзіроўшчыкаў і ўсяпагодлівых знішчальнікаў, а таксама транспартныя самалёты тыпу „Геркулес“ для дэсантных войск. На тэрыторыі Чылі акрамя 11 ваенных аэрадромаў пабудавана 287 спецыяльных пасадачных пляцовак.

Гарматы замест масла... Адраджэнне гэтага зласвеснага лозунга сведчыць перш за ўсё аб нетрываласці і няўпэўненасці рэжыму Пінача. Не выпадкова, дарэчы сказаць, хунта набыла ў ЗША 75 самалётаў, спецыяльна прыстасаваных для барацьбы з партызанамі. Але, як сведчыць гісторыя, на штыках, свае яны ці замежныя, доўга не ўседзіш.

**В. Андрыянаў**

---

(Працяг са стар. 1)

# РОДАМ З ТЫНЕВІЧ ВЯЛІКІХ

капанне бульбы. Але ўсё ж яна знаходзіць час на пазакласную працу са школьнікамі.

— Цікаўлюся лялечным тэатрам. Гэта маё хобі. Пачала гады таму чатыры. Цяпер працую з дзецьмі чацвёртага класа. Вельмі займальная і надта ж выхаваўчая форма працы. Раю ёю заняцца і іншым маім калегам-настаўнікам. З чаго пачынаю? З выбару п'ескі або адаптацыі якога-небудзь цікавага апавядання з дыялогамі. Заахвочваю да тэатра дзяцей. Рыхтуем разам сцэнарый. Кожнае дзіця выбірае сабе дзеючую асобу з п'есы. Разам абмяркоўваем, як тая дзеючая асоба мае выглядаць. Робім лялькі. Месім гліну, фармуем і лепім нашых „акцёраў“. Потым сушым іх, абклейваем адпаведнымі ўборамі. Зноў сушым, красім. І вось лялькі гатовыя. Якія яны бываюць займальныя! Кожнае дзіця інакш бачыць свайго героя-акцёра, і атрымоўваецца такі дасканалы і багаты выбар, што і прафесіянальны лялечны тэатр можа пазайздросціць. Развучваем у міжчасе ролі, праводзім рэпетыцыі. Прэм'еры адбываюцца заўсёды ў сваёй школе, а потым вандруем у дзіцячы сад, а цяпер збіраемся ў бальніцу да хворых дзяцей. І ўдзельнікі і гледачы захоплены. Ставілі мы ўжо „Казу-манюку“, „Навагоднюю ёлку“, „Бліскучы ключык“, а таксама беларускую народную казку „Пшанічны каласок“, што змешчана ў падручніку беларускай мовы для IV класа. Маем і свае дасягненні — з добрым вынікам мы прымалі ўдзел у павятовым конкурсе лялечных тэатраў.

Размаўляў **М. Гайдук**
Фота аўтара

---

## TELEWIZJA WARSZAWA

**Sobota — 23.VIII.** 9.30 Pr. dnia. 9.35 Pr. I prop. 9.50 Podróż z Jakubem — film fab. węg. 11.20 W kosmicznej kuchni. 12.10 Pios. dla Ciebie. 13.00 Oferty. 13.10 Dzień na lotnisku. 13.30 Lekt. Pegaza. 13.45 Dla dzieci: 14.45 Studio przebojów. 15.30 Studio 2.

**Niedziela — 24.VIII.** 7.20 Tech. Rol. 8.00 Przyp., radz. 8.10 Now. w domu i zagr. 8.35 Bieg po zdr. 8.50 Sport. 8.55 Pr. dnia. 9.00 Teleranek. 10.20 Antena. 10.40 Kraina wiecznej młodości — film fab. rum. 12.15 Wrocław, wiosna. 13.05 Dziennik. 13.20 Tydzień. 13.50 Pracować na scenie. 14.20 Film dla dzieci. 14.45 Los. Toto-Lot. 15.00 Gra G. Olsen. 15.15 Refl. ob. 15.50 Finał Europ. na żużlu. 18.00 Z Trybuną Ludu — pr. rozr. 19.15 Wieczorynka. 19.30 Dziennik. 20.20 Bajka dla dor. 20.20 Nowe przygody Vidocqa — film ser. fr. 21.25 Festiwal Pios. w Sopocie — Koncert laureatów. 22.55 Sport.

**Poniedziałek — 25.VIII.** 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Obiektyw. 17.00 Zwierzyniec. 17.45 Echo stadionu. 18.15 Gra René Franc. 18.50 Eureka. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Teatr TV — R. Brandstaetter — „Król i aktor". 21.40 Alfabet rozrywki. 22.20 Dziennik. 22.35 Sport.

**Wtorek — 26.VIII.** 10.00 Nowe przygody Vidocqa — film ser. fr. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Obiektyw. 17.00 Na wielkim i małym ekr. 17.30 Lato z pomysłem. 17.35 Nie tylko dla pań. 18.00 Lato z pomysłem. 18.05 Fakty, Op., Hip. 18.35 Lato z pomysłem. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Przyp., radz. 20.25 Hiszpanki w Paryżu — film fab. hiszp. 22.00 Teatr ruchu — Dwie noce. 23.30 Dziennik. 23.40 Sport.

**Środa — 27.VIII.** 10.00 Film fab. 16.05 Pr. dnia. 16.10 Dziennik. 16.20 Obiektyw. 16.40 Na każdym kilometrze — film ser. bułg. 18.10 Los. Mał. Lot. 18.20 Patrol. 18.40 Teatr. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Zbrodnia w klubie tenisowym — film fab. jug. 21.45 Interstudio. 22.30 Dziennik. 22.45 Sport. 23.05 Oferty.

**Czwartek — 28.VIII.** 10.00 Zbrodnia w klubie tenisowym — film fab. jug. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Obiektyw. 17.00 Ekran z Bratkiem. 18.10 Informator tur. 18.45 Listy i polityka. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Przyp., radz. 20.25 Film fab. 21.25 Pegaz. 22.10 Dziennik. 22.25 Sport.

**Piątek — 29.VIII.** 10.00 Film fab. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Obiektyw. 17.00 Pora na Telesfora. 18.05 Tuzin — teletur. 18.40 Mała Encyklop. Zwierz. — ser. film fr. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Pewne opowiadanie — film ang. 20.50 Panorama. 21.35 Piosenki i kwiaty — pr. TV CSRS. 22.00 Dziennik. 22.20 Sport. 22.30 Na organach elektron. gra Rhoda Scott (USA).

## ТЭЛЕВІЗІЯ МІНСК

**Piątek 22.VIII** — 8.10 Film fab. 9.50 Święto pieśni i tańca. 17.30 P. nożna. Spartak — Dynamo (Kijów). 19.45 Festiwal „Krymskie zorze".

**Sobota 23.VIII** — 9.55 Koncert. 12.05 Film fab. 14.25 Śpiewa T. Kalinczenko. 15.00 W świecie zwierząt. 16.35 Film fab. 17.10 Piosenka-75. 17.35 Spektakl. 19.30 Film muz. 20.55 Międzynar. tur. tenisowy. Finał.

**Niedziela 24.VIII** — 11.30 Film fab. 15.00 Cyrk. 15.35 Filmy anim. 16.15 Klub film. 17.25 Film fab. 20.30 Sport.

## КІНО

**Białowieża** Drogi do ojczyzny — pol. 26—27. Max Ferajna — fr. 28—29. Złoto dla zuchwałych — USA 30—31.

**Czyże** Człowiek, który przestał palić — szwedz. Zaczarowane podwórko — pol. 27—31.

**Dubicze Cerkiewne** Gra złudzeń — fr. Po drugiej stronie słońca — ang. 27—31.

**Gródek** Drogi do ojczyzny — pol. 30—31.

**Kleszczele** Czym mogę służyć — czes. 26—27. Szczęśliwego Nowego Roku — fr. 28—29. To ja zabiłem — pol. 30—31.

**Michałowo** Zapamiętaj imię swoje — pol. 26—27. Dzieci lwicy z Buszu — ang. 28—29. Godzina za godziną — pol. 30—31.

**Milejczyce** Hasło Korn — pol. 26—27. Hrabina Cosel — pol. 28—29. Aresztuję cię przyjacielu — USA 30—31.

**Narew** Szach królowej brylantów — radz. Wspaniały interes — radz. 27—31.

**Narewka** Dowódca łodzi podwodnej — radz. Wakacje we czworo — wł. 27—31.

**Nurzec** Czym mogę służyć — czes. 26—27. Szczęśliwego Nowego Roku — fr. 28—29. To ja zabiłem — pol. 30—31.

**Orla** Zła noc — czes. Przygoda z piosenką — pol. 27—31.

**Rajsk** Potop — pol. 27—31.

B.Z.Graf. Zam. 2094. P-1.

## ЧАМУ ДЗІЦЯ НЕ ВУЧЫЦЦА РОДНАЙ МОВЕ?

# ГЛЕДЗЯЧЫ З ОЛЬШТЫНА

У гэтым годзе ў „Ніве", як ніколі раней, пайшлі палемічныя артыкулы: „Які мае быць каляндар?", а цяпер „Чаму дзіця не вучыцца роднай мове?" Добра, што аб гэтых справах гаворыцца, бо там, дзе справы не абмяркоўваюцца, дзе няма крытыкі, няма і прагрэсу. Хаця я не жыву ў беларускім асяроддзі, знаходжуся далёка, але, чытаючы „Ніву" і назіраючы за жыццём, пастанавіў таксама далучыць свае заўвагі. Можа, і мае назіранні і думкі камусьці прыдадуцца. А можа, каму-небудзь будуць яны і непрыемнымі...

Вельмі правільна, што ўзнята пытанне, чаму беларускае дзіця не вучыцца роднай мове. Пісалі ўжо аб гэтым многія. Па-мойму, усе маюць рацыю, але найбольш рэальна да справы падыходзіць Ю. Туронак. Правільны быў падыход міністра асветы да справы навучання роднай мовы, які загадаў выкладаць у школах, што сярод беларускага насельніцтва, **абавязкова** і беларускую мову. Абавязковасць — тут галоўная справа. Пасля ж уводу прынцыпу добраахвотнасці і так яшчэ добра, што столькі дзяцей вывучае сваю мову.

Правільна ў папярэдніх артыкулах гаворыцца таксама пра адносіны да гэтай справы настаўнікаў і БГКТ. У мінулым годзе, будучы ў Гданьску, спаткаўся я з адным знаёмым. Расказваў ён мне і наракаў, што яго жонка — з Беласточчыны і выпускніца беларускага ліцэя — не мае ніякага беларускага выхавання! У тым ліцэі (не пытаў, які), акрамя беларускай мовы як прадмету, больш нічога беларускага няма. Калі так і ёсць у сапраўднасці, дык такі „беларускі" ліцэй не адпавядае сваёй назве.

Ясна, што ў справе навучання дзяцей роднай мове многа можа зрабіць таксама і БГКТ. Па-першае, трэба ясна паставіць справу ў Міністэрстве асветы. Па-другое, трэба звярнуць больш увагі на дапамогу дзецям, што вучацца роднай мове.

Да „Нівы" як дадатак далучаецца „Зорка", газета — ці лепш газетка для дзяцей. Рэдагаваннем „Зоркі" займаецца бадай адна асоба, а адной асобе тут цяжка. Па-мойму, трэба было б уцягнуць у гэтую работу настаўнікаў, а можа нават некаторыя цэлыя школы згадзіліся б апрацоўваць пасобныя нумары. З аднаго боку, былі б яны тады больш зацікаўлены сваёй газетай, з другога ж — можа ўзнікла б між школамі своеасаблівае спаборніцтва.

Далей. Многа раней пісалася аб календарах. Не буду тут спыняцца над іх зместам. Непакоіць тое, што ў апошнія гады гэтыя календары паяўляюцца штораз пазней. Нядобра выглядае таксама справа з іх распаўсюджваннем. У аб'явах аб выпуску календароў звычайна пісалася — **па заказу высылаюцца поштай**. Як жа выглядала гэта на практыцы? Давялося сустрэцца з такімі вось фактамі. Расказваюць, што адзін чалавек ад нас на працягу некалькіх гадоў высылаў заказы на календары, але календароў не атрымоўваў. Трэба было пісаць ізноў, прасіць.

Нядаўна выслаў я заказ у „Дом кнігі" ў Беластоку, і праз некалькі дзён заказ гэты быў выкананы! А чаму Таварыства не можа так працаваць? Калі хочам захаваць свой нацыянальны характар, дык нам трэба працаваць бадай не менш ад гандлёвых прадпрыемстваў, а нават больш і ахвярней!

**С. Станулевіч,**
Ольштын




# ПТАШНІКАЎ ПА-ПОЛЬСКУ

Лодзінскае выдавецтва выпусціла кніжку Івана Пташнікава „Лонва". Перакладаў яе Баляслаў Манкевіч.

Робіцца крыху дзіўна ад таго, што знаёмства польскага чытача з прозай Івана Пташнікава пачынаецца якраз **не** ад самай выдатнай яго кніжкі, якой, несумненна, з'яўляецца „Тартак". Але гэта можна зразумець: „Тартак" напісаны надзвычай багатай беларускай мовай з дужа арыгінальнай стылістыкай. Адсюль выключныя цяжкасці, на якія натыкаецца польскі перакладчык (над гэтай кніжкай Пташнікава ўжо здаўна працуюць).

„Лонва" пераклікаецца з „Тартаком", кніжкай аб ваеннай, партызанскай Беларусі.

У „Лонве" партызанскае ўчора ўплецена ў працоўнае сёння. Кніжка аб пасляваеннай рэчаіснасці, прытым не ўвогуле аб беларускай рэчаіснасці таго часу, але аб той, якую магчыма лакалізаваць на карце Беларусі. Ад рэчкі, ад вёскі Лонва ў ясны дзень відаць смуга Аўгустоўскай пушчы...

Пташнікаў — вялікі майстар падрабязнасці. Яна ў яго і дакладная, і вобразная, і значная для тэмы, і займальная. І надта непадобная яна да той падрабязнасці, з якой мы звыкліся, чытаючы класічнае, нярэдка насычанае этнаграфізмам або каларытам звычаёвасці. Таму, па-мойму, арыгінальнасць Пташнікава таксама і ў тым, што ён даследуе ў сваёй прозе кожную жвірынку, без якіх не можа быць цэглаў, сцяны і цэлага гмаху нашага, чалавечага, жыцця. Можна памыліцца і сказаць, пацвердзіць тое, што ўжо не раз іншыя гаварылі аб Пташнікаве, як аб лірыку... Гэта вельмі частковая праўда. Ён не столькі захапляецца чалавекам і прыродай, колькі займаецца рэканструкцыяй іх, усё болей падрабязнай... Героі Пташнікава праз усё сваё жыццё адкрываюць і будуюць саміх сябе, удасканальваюць.

Сутыкаемся тут з буйнай прозай. Аб ёй можна гаварыць многа. І ўсё, што не скажы, з'явіцца больш ці менш далёкім нават ад тых прыблізных адчуванняў, якія яна выклікае. Пісаць аб прозе Пташнікава — гэта ўсё роўна, што спрабаваць назваць жыццё — дарэмныя намаганні!

Беларуская літаратура надалей жыве пераважна праблемамі вёскі або чалавека з вёскі. Але, бадай, ніхто ў ёй не паказаў вёскі глыбей, чым зрабіў гэта Пташнікаў.

Вёсцы непатрэбныя апякунскія захапленні. У іх яна трапна адчувае пачаткі мяшчанскай няшчырасці, адчужанасці. Яе шчасце і драматызм, прыгажосць і брыдота, розум і тупасць маюць у сабе цэлы свет. Хапае іх за ўсё чалавецтва, за ўсе ягоныя праблемы.

„Лонва", мабыць, сустракаецца з выразным зацікаўленнем з боку польскага чытача, які ў роднай літаратуры рэдка знаходзіць нешта аб вёсцы. У такіх кніжках, як „Голы сад" і „Палац" Мысліўскага або „Майдан" і „Забарона звалкі" Пілята вёска паказана ў мужыцкім сутыкненні са шляхецкай або гарадской цывілізацыямі. Вёска гібеючая, як у „Канапельцы" ці „Узвышэнні" Рэдлінскага, **удастоеных** дзяржаўнай прэміі за г.г... Вёска ж Пташнікава не „сапсаваная" аўтарска-мяшчанскімі прадчуваннямі ды прароцтвамі яе канца. Ён не забаўляецца на яе рахунак вялікімі метафарамі — салідна вывучае яе, любіць і цэніць, як толькі можна любіць ды цаніць моцнае жыццё.

**Сакрат Яновіч**

# Пра святліцу ў Войнаўцы

Узнікла шчырае жаданне жыхароў вёскі Войнаўка (гміна Дубічы Царкоўныя), каб пабудаваць у сябе святліцу. Пачалі яны ад зборкі грошай. Вазілі жвір ды пясок на пабудову мясцовых дарог і зароблены грошы склалі на ашчадную кніжку. Затым, кожная сям'я дабраахвотна пастанавіла сплясці пару кашоў на суму 500 злотых і гэтыя грошы таксама апынуліся на ашчаднай кніжцы. Такім чынам, сабрана 30 тысяч злотых. Неабходна была яшчэ дапамога гмінных, адміністрацыйных і партыйных улад. Солтыс Васіль Цяцерка ставіў справу пабудовы святліцы пры кожнай нагодзе: на нарадах партыйнага актыву і солтысаў, у гайнаўскім аддзеле культуры. Войнаўцам пашчасцілася. Ім былі прызнаны драўляны будынак, які трэба было раскінуць у Беластоку, каб гэтым самым уступіць месца навабудоўлям. Атрымалі яго бясплатна. Жыхары Войнаўкі разабралі будынак і прывезлі яго ў вёску, а століры Рыгор Ляўчук, Кастусь Рашчэнка, Павел Саевіч і Уладзімір Саевіч хутка паставілі і этэрнітам пакрылі святліцу. Не ўсе работы аднак, былі закончаны. Трэба яшчэ раздабыць фетравых плітаў і дранак на шалёўку. Ёсць аднак надзея, што з-за гэтага затрымка будзе кароткай.

Варта адзначыць вялікі ўклад працы пры пабудове святліцы членаў грамадскага камітэта пабудовы: Кастуся Брысюка, Уладзіміра Саевіча, Кастуся Рашчэнкі, Міхася Андрасюка, солтыса Васіля Цяцеркі (працаваў ён, грамадска, 17 дзён). І іншых жыхароў вёскі: Сцяпана Беляўца, Яна Беляўца, Мікалая Гуткоўвіча, Анатоля Блізнюка.

(ця)

## Гарадскія зарысоўкі



*Калі гарачыня стаіць такая, што цяжка дыхаць, тады прыемна схавацца ў цені дрэў. Гэты сквер на вуліцы 1 Мая ў Бельску жыхары горада зрабілі грамадскім чынам.*

*Фота В. Рудчыка.*

З РАЗБУДЖАНАЙ ГРАМАДЫ

# Сяргей Дружба



Жыве ў вёсцы Крывяцічы, што за Орляй. Яму цяпер ужо 85 год. Аднак з яго яшчэ бадзёры, здаровы, жыццерадасны дзядуля. Ахвотна дапамагае ў полі на гаспадарцы і дома.

— Гэта рэвалюцыйная, кавалерыйская, будзёнаўская закалка, — заяўляе.

Сапраўды, Сяргею Дружбе давялося ваяваць пад камандаваннем гэтага легендарнага палкаводца.

— А Варашылаў быў тады ў нас камісарам, — кажа з гонарам даўнейшы будзёнавец з вёскі Крывяцічы. І ёсць яму чым ганарыцца, бо не многія людзі змогуць пахваліцца ў нас такім багатым рэвалюцыйным мінулым. Баявыя паходы коннай арміі Будзённага вывучаюць цяпер дзеці ў школах.

Быў верным байцом рэвалюцыі. І за гэта ў 50-ую гадавіну Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі ўрад СССР узнагародзіў яго ордэнам **„Чырвонай Зоркі"**.

У Крывяцічы вярнуўся ўжо тады, калі закончылася грамадзянская вайна і савецкая Расія падпісала пагадненне з Польшчай.

— На развалінах нашых будынкаў вырасла ўжо зелле і засеяўся лес. Купіў карову і так разам з жонкай распачалі мы гаспадарыць. Хадзіў я на заробкі ў Гайнаўку і Белавежскую пушчу. Пасля стаў начным сторажам ў сваёй вёсцы.

Ведаў тады ён дакладна, што і калі хто робіць у Крывяцічах. Неўзабаве заснавалася ў вёсцы ячэйка камуністычнай партыі Заходняй Беларусі, а пасля і гурток Беларускай сялянска-рабочай грамады. Членамі былі Сцяпан і Аляксей Кліны, Фёдар Рагоза, Сцяпан і Ян Тамчукі, Павел Рыбачук, Мяфодзій Казакевіч, Кірыл Суліма і іншыя, прозвішчы, якіх Сяргей Дружба ўжо пазабываў. Разам было іх 14 членаў. Асабліва актыўным быў у Крывяцічах Косця Мураўскі, які цяпер жыве ў Познані. Ён загітаваў у партыю і Сяргея Дружбу.

Да начнога стоража часта заязджаў камендант арлянскай паліцыі Бжазінскі. Патрабаваў, каб Дружба сачыў за камуністамі і грамадоўцамі.

— Тут у вас беларускія кніжкі чытаюць, дзяцей па-беларуску вучаць, — нападаў ён на начнога стоража. — А ты як старожыш, што нічога не ведаеш?!

Іншы паліцэйскі з Орлі, Дзюхцярскі, які асабліва ненавідзеў камуністаў і таму яго накіравалі працаваць у „дэфензіву", таксама часта прыставаў да Сяргея Дружбы.

— Ад цябе камуністам смярдзіць, — гаварыў яму. — Я гэта чую. Скажы нам лепш, хто ў вас камунай займаецца? А калі не скажаш, дык самога ў турму пасадзім.

Сяргей Дружба прыкідваўся наіўным мужычком і адказваў, што ён не ведае, пра што яго пытаюць.

Цяпер ён з'яўляецца заслужаным пенсіянерам. Пытаю яго, як яму жывецца.

— Жыву, не гарую, спадзяюся лепшага, — смяецца дзядуля Сяргей. — Колькі змагу, дык дапамагаю дзецям. То тут у Крывяцічах, дзе гаспадаруць мой сын, то ў Гайнаўцы, дзе жыве дачка. Нямала нацярпеўся я бяды ў сваім жыцці, дык цяпер усё гэта трэба адбіць.

**(вр)**

фота аўтара

Беларуская літаратура — Аляксандар Баршчэўскі

# НАШАНІЎСКАЯ ПАРА

**АЛЕСЬ ГАРУН — ЧАСТКА XIX**

**Сібірская ссылка.** Мы ўжо ведаем, што многія гады свайго жыцця правёў Гарун у сібірскай ссылцы. Дык нічога дзіўнага, што тэма Сібіры і ссылкі адлюстравана ў творчасці паэта. Тэма гэтая праявілася ў некалькіх аспектах. Прырода Сібіры, цяжкае паднявольнае жыццё, мары аб Беларусі — гэта галоўныя праблемы сібірскіх вершаў „Начныя думкі", „Чаму з маленства, з ураджэнства", „Песня", „У выгнанні", „Журба", „Восень", „Мае думкі", „Ветру", „Завіруха", „Думы ў чужыне", „З песняў няволі", „Эх сягоння, у гэту ночку", „Вясна".

Амаль усе „сібірскія" вершы Гаруна пабудаваны на антытэзах: брыдкая прырода Сібіры — прыгожы беларускі пейзаж, панурае жыццё ссыльнага — светлае юначае жыццё ў Беларусі, безнадзейнае сучаснае — добрае мінулае. Зразумела, што такі шаблон не акрэслівае характару ўсіх вершаў, аднак у многіх якраз ён іграе першую скрыпку. Прымусовы побыт паэта ў Сібіры не мог выклікаць у яго сэрцы сімпатыі для гэтай грамаднай краіны. Варожасць Гаруна да Сібіры можна назваць татальнай. Датычыла яна не толькі грамадскай сістэмы, але і прыроды. З гэтай прычыны сібірскія вершы паэта нельга трактаваць як аб'ектыўную ілюстрацыю сібірскага пейзажу. Наадварот, з'яўляюцца яны крайне суб'ектыўнымі формамі. Зрэшты, паэт не толькі не скрывае гэтай суб'ектыўнасці, але робіць нават з яе свайго роду праграму.

Паслухайма яго „Песню":

*На чужой староньцы*
*Не цвітуць сады,*
*Не спяваюць птушачкі, —*
*Не лятуць сюды.*
*І чужое лецейка*
*Для мяне — зіма,*
*І чужога сонейка*
*Для мяне няма.*
*На чужой старонач цы*
*Не шумяць лясы,*
*І няма прыгожасці*
*Ў палявой красы.*

Значыць, няма птушак, хаця яны і ёсць, няма сонца, хаця яно і свеціць, няма ляснога шуму, хаця лес і гамоніць. Гарун у ніякім сэнсе не хацеў сябе атоесамліваць з Сібірру. І хаця і быў яе арганічнай часткай, але па няволі, і таму не хацеў успрымаць прыгажосці многіх сібірскіх мясцін. Ніякіх слядоў захаплення не знойдзем у яго паэзіі. Ці можам здзіўляцца такому падыходу паэта да рэчаіснасці? І так і не. З аднаго боку, хацелася б знайсці ў яго творах аб'ектыўную карціну рэчаіснасці. З другога, аднак, боку, цяжка дамагацца ад вязня пахвалы турэмнай камеры. Для Гаруна грамадная Сібір была цеснай камерай. Адсюль вынікала яго паэтычнае асуджэнне ўсяго, што было звязана з гэтай краінай. Найчасцейшым матывам, звязаным з пейзажам Сібіры, з'яўляецца матыў бязмежнага снегу, высокіх гор, ветру, завеі. Усе гэтыя з'явы ўвасабляюцца ва ўяўленні паэта ў сімвалы сіл, варожых чалавеку. У вершы „Мае думкі" Гарун называе сібірскія горы „вартаўнікамі няволі". У вершы „Навокал" праяўляецца фаталістычны жах паэта перад прыродай. Аўтар выяўляе сваю бяссільнасць, свой страх, выкліканыя суровасцю сібірскага пейзажу. Прымяняе ён цікавую тэхніку верша. Эскізы, адарваныя сказы, нервовасць, баладнасць — усё гэта сведчыць аб застрашанасці, няўпэўненасці, трывозе.

*Снягі, лядьы,*
*абрус жуды*
*назаўсягды,*
*на вечны час*
*ляглі.*
*Гара, скала*
*наўкол лягла*
*і ўзрасла...*

Гэты пейзаж здаецца паэту чымсьці пачварным, непрыхільным, варожым чалавеку. Бароніцца ад яго паэт найслабейшай з даступных чалавеку зброяй — боязню.







## Па-суседску...

*Два дамы, якія мы бачым на здымках, стаяць пасуседску ў вёсцы Вялікая Турна Сямяціцкай гміны. Належаць яны двум братам, Жабюкам. Старэйшы Жабюк — Якуб з сынам Аляксандрам жыве ў драўлянай хаце, а малодшы — Антон разам з сынам Янам пабудавалі сабе мураванку.*

*Два дамы — і дзве эпохі жыцця нашай вёскі. Дом Якуба і яго сына Аляксандра Жабюкоў прасторны і прыгожа размаляваны. Аднак драўляная архітэктура ўсё часцей уступае з нашых вёсак, а на яе месца прыходзіць цэгла і бетон.*

Тэкст і фота **В.Р.**

**(Працяг са стар. 1)**




Шмат чаго бачыла ў сваім доўгім жыцці бабулька Даміка. Зусім нядаўна пахавала яна свайго мужа. Сын Віктар стаў тады адзіным і самастойным гаспадаром.

— Муж мой, — гаворыць маці, — быў у Нурцы адным з лепшых гаспадароў. Жылі мы даволі багата. Аднак ён ніколі не дабіўся таго, што мае яго сын.

Дык што ён мае? Што дазваляе яму адкласці немалую суму грошай на пабудову аграмаднай мураванкі з усімі сучаснымі выгадамі, якімі карыстаюцца жыхары гарадскіх блокаў?

Вядома, па старой традыцыі Віктар Бартнічук сее шмат грэчкі, якая прыносіць яму зусім неблагі прыбытак, бо дзяржава за адзін цэнтнер закантрактаванай грэчкі плоціць сялянам 1240 злотых. Кожны год Віктар Бартнічук кантрактуе таксама 3-4 га жыта, сее авёс і вырошчвае многа бульбы. Бульба яму неабходна для адкорму свіней — больш-менш па 30 штук у год. Не занядбоўвае ён і гадоўлі кароў.

— Летам кожны дзень дастаўляем мы ў злеўню, — гаворыць бабулька Даміка, — 35-40 літраў малака.

— Апрача дойных кароў, — дадае гаспадар, — гадую я яшчэ 4 ялоўкі.

Віктар Бартнічук просіць мяне паглядзець яго новы, яшчэ не зусім закончаны дом. У яго роднай вёсцы такіх дамоў пакуль што мала. Дык, зразумела, ёсць чым ганарыцца. — Паглядзіце, дабіўся я гэтага без гарадскіх заробкаў, на ўласнай гаспадарцы!

А не толькі пра ўласныя асабістыя справы ён клапоціцца. Восем год ужо ён солтысам у сваёй вёсцы, 4 разы выбіралі яго сакратаром вясковай партыйнай арганізацыі, быў радным павятовай рады, а цяпер перавялі яго ў радныя гміннай рады, актыўна дзейнічае ў мясцовым сельгасгуртку і ў кааператыве „Сялянская самапомач".

— Мне ўжо сіл на ўсё гэтае не хапае, — скардзіцца солтыс Бартнічук. — Аднак людзі мне даўяраюць, і я не магу адмовіцца ад гэтага даверу.

У апошнія гады Віктар Бартнічук з'яўляецца галоўным арганізатарам пабудовы чыгуначнага прыпынку ў сваёй вёсцы.

— Як ведаеце, чыгунка праходзіць у нас пад самай вёскай, — гаворыць ён. — Кожны дзень чуем ляскатню цягнікоў. Аднак да станцыі маем далёка. Дык рашылі мы грамадскім чынам пабудаваць сабе чыгуначны прыпынак.

Дзеля гэтага неабходна была згода Міністэрства камунікацыі, за якой прыйшлося некалькі разоў ездзіць у Варшаву.

— Цяпер ёсць ужо гэтая згода, — інфармуе солтыс, — і ёсць таксама камплектная дакументацыя, навазілі пяску і жвіру для пабудовы перонаў. Аднак падвялі нас выканаўцы...

Веру, што і гэтыя клопаты яны пераадоляць і ўжо неўзабаве ў вёску Нурэц можна будзе даехаць цягніком. Грамадская актыўнасць і настойлівасць такіх людзей, як Віктар Бартнічук з вёскі Нурэц перш за ўсё, змяняе воблік нашай краіны. І таму гэтыя людзі заслужылі на нашу пашану.

**Віктар Рудчык**
Фота аўтара




На Гайнаўшчыне наогул нядрэнныя дарогі. З году ў год прыбывае нават асфальтных, тых найбольш сучасных. Ва ўсёй Нараўкаўскай гміне за апошнія гады асфальтныя дарогі былі пабудаваныя між іншым з Нараўкі ў Міклашэва і з Ляўкова ў Падляўкоў'е. Найважнейшая, аднак, дарога праз Белавежскую пушчу — з Навасад у гмінную вёску Нараўку — у далейшым не мае асфальту. Па гэтым, амаль 10-кіламетравым участку ўхабістага бруку ездзяць аўтобусы ПКС з Гайнаўкі ў Семяноўку, Масева, Сушчу і ў Беласток. Апрача таго, з кожным годам усё больш з'яўляецца матарызаваных турыстаў, наведваючых турыстычную гміну Нараўку. І ўсе шафёры наракаюць на язду па гэтай рухлівай дарозе.

У грузавых аўтамашынах падчас язды на ўхабінах часта лопаюць рэсоры ды ўвогуле заўчасна псуюцца аўтамашыны. Вядома таксама, што такая язда ўсім яе карыстальнікам пагражае небяспекай.

Нараўкаўскую гміну афіцыяльна прызналі турыстычнай, але пра найважнейшую дарогу да яе ўсе забыліся. Як можна захапляцца прыгажосцю Белавежскай пушчы едучы гэтай ляснай дарогай, калі немагчыма спакойна ўседзець у аўтобусе ці ў легкавой машыне? А вось ад Навасад ужо ўсюды пабудаваны асфальтныя дарогі: у Гайнаўку, Белавежу, Кляшчэлі, Нарву і куды яшчэ толькі.

Мо новыя гмінныя ўлады ў Нараўцы пастараюцца пра пабудову асфальтнай дарогі ў напрамку бліжэйшага горада Гайнаўкі? (ця)




## Парадак - не дым, вачэй не выесць

Гаварыце, што хочаце, аднак аўтобусны прыпынак — добрая штука. Не страшны тады ні дождж, ні вецер. Адчыніў дзверы, увайшоў і сядзі, як у бога за пазухай. Некалі дрэвы іх замянялі. Вось і ў Пасынках, памятаю, расла калісь старая, надгніўшая ды пахіленая вятрамі вярба. Справы пагоды не выбіраюць. Выганяюць чалавека з дому, нягледзячы на надвор'е. Ці то мяцеліца, ці дождж, ці вецер — стаяць людзі, бывала, ды цісну цца з усіх бакоў да дрэва, як да цёплай печкі, марачы аб кавалачку страхі над галавой. Ды і вярбе не вечна стаяць. Зрэзалі яе, ды каб і не зрэзалі, то і так гады б яе звалілі. Старая ўжо была. Аднак час ласкавы. Хаця ён і надта хутка ляціць, але і пра чалавека не забывае. Заўсёды пакідае па сабе штонебудзь новае, лепшае. Так было і ў Пасынках. Як грыб пасля дажджу, вырас прыгожы, мураваны, з шклянымі вокнамі ды з дзвярыма з клямкай, прыпынак. Потым яго памалявалі і палажылі бетонную падлогу. Проста можна пазайздросціць. Чыста, прыемна, на галаву не капае, вецер не дзьме. Сядзі толькі ды паглядай у вакно, ці аўтобус не едзе.

Добрая штука — хвалілі людзі.

Аднак, відаць, не такая ўжо добрая была яна. Да поўнага камфорту чагосьці не хапала. Толькі чаго? Паветра? Пэўна, так. Людзі на вёсцы прывыклі дыхаць на поўныя грудзі. Ну і пачалі памалу ўводзіць мадэрнізацыю. Праўда, не патрэбна тут была ніякая філасофія. Хапіла б толькі адчыніць акно ці дзверы — і паветра было б колькі хочаш. Не спадабаўся, відаць, такі спосаб. Гэта не штука рабіць тое, што і другія робяць. Ну і выдумалі новае. Не кожны так патрапіць. Неўзабаве праз ваконныя рамкі, дзе некалі паблісквала на сонцы чысценькая шыба, ўварваўся ў памяшканне струмень свежага паветра. Падобны лёс спаткаў і шыбу ў дзвярах. Потым паявіліся надпісы і рысункі, якія намнога адставалі ад тых, што рысавалі дзікуны на скальных сценах. Ці ж гэта мае азначаць, што пачынаем апускацца ніжэй культуры першабытнага чалавека? Вінаватых, зразумела, не было датуль, пакуль нехта не сказаў, што гэта школьнікі. І сапраўды, можна было б падумаць, што яны, ідучы са школы, пакідаюць па сабе сляды. Ды нешта тут не так. Надта ж хутка знікалі гэтыя „вучнёўскія сляды". На свае вочы я бачыў, як вучні пасынскай школы замяталі ды садзілі перад вокнамі кветкі. А аднаго разу нават паявіліся невялічкія фіраначкі. І думаеце, надоўга? Праз некалькі дзён і след па гэтым прапаў.

Гады тры не быў я на гэтым прыпынку. Ды неяк, у пачатку чэрвеня, давялося чакаць аўтобуса. Першае, што кінулася ў вочы — гэта дошка з гадзінамі курсавання. Пачатак чэрвеня, а яна ўжо была пагнутая, паабдзіраная. Значыць, усё нармальна, нічога не змянілася. Людзі цвёрда трымаюцца „традыцыі". Калі павесілі, то абавязкова трэба пачынаць псаваць. Але гэта яшчэ паўбяды. Заглянуў я ў памяшканне прыпынку. А божа ж мой! І чаго там толькі няма... Можа спачатку — чаго няма, а потым — што ёсць. У дзвярах, дзе некалі была клямка з замком, гаспадарыць дзірка, якую нехта прабаваў забіваць дошчачкай. Пліта, якой быў падбіты паталок, — сарваная. Сляды сцякаючай па сценах вады сведчаць, што і тут ад дажджу схавацца цяжка. Акна няма ніводнага. Надпісаў, праўда паменшылася. Але ці гэта плюс? Я думаю, што людзі скаціліся яшчэ ніжэй, а менавіта да тых часоў, калі і пісаць не ўмелі. Аб гэтым сведчыць тое, што ёсць. Палавіна падлогі выслана сенам, на якім, відаць, нехта спаў. Другая палавіна закідана смеццем. А ў самым куточку відаць месца, прызначанае для фізіялагічных патрэб. Паветра цяжкае, як у нейкай пячоры. Нават выбітыя вокны не памагаюць.

Ой, не гэта дарога вядзе да паляпшэння, не гэта. А можа, усё гэта робіць сум па вярбе? Дарэмна тады зганяць злосць на гэтым маленькім будынačку, якога вам, напэўна, многія зайздросцяць. Вярбы і так не вернеце, а дрэвы тыя, што тут растуць — надта малыя. Аднаму і то цяжка схавацца. Можа пачакайце тады, пакуль падрастуць. Ой, сорам людзі, сорам. Нечага звальваць супольную віну на другіх, а лепш павярнуцца і пайсці ў іншым напрамку. Ці ж вы і ў хаце баіцеся парадку?

**Міхась Шаховіч**

# БРЫДКІЯ СПРАВЫ ПРЫГОЖАГА ПАВІЛЬЁНА

У мінулым годзе ў Бандарах пабудавалі новы гандлёвы павільён. Персанал у ім налічвае аж чатыры асобы. Работай кіруе Ніна Хлябіч.

Тут можна купіць усё або амаль усё. Таму і няма дзіва, што сюды едуць за пакупкамі часамі нават і ганарыстыя міхалаўчане, свет дарогі!

Здавалася б, у бандароўскім павільёне ўсенька адбываецца вельмі добра!..

Ды тут і пачынаюцца розныя „але“. Напрыклад, з чатырох столікаў ды шаснаццаці крэселцаў, пастаўленых на тэрасе, будаваць які шмат дапамагалі самі людзі, каб мець сабе выгаду пасядзець пад працісонечнымі парасонамі ды за бутэлькай напітку, або мець куды схавацца ад ліўню, — засталося зараз усяго два століні і тры крэселцы. Іншыя, на вялікае дзіва, зайшлі сваімі мёртвымі нагамі ў прысады сядзібы пані Хлябіч, дзе служаць ёй падчас сваяцкіх ці таварыскіх сустрэч...

Будуючы павільён, прыдумалі парабіць клумбы. Прыгожа ды культурна. Ды яны, гэтыя элегантныя клумбы, забуялі зеллем, а чатырохасабоваму персаналу няма ахвоты апалоць іх і дагледзець. Няпраўда, што жанчыны любяць кветкі!

Ля спажывецкага ларка ў павільёне — пераважна чарга знямоглых людзей. Чаму? Бо там замест двух прадаўшчыкоў толькі адзін. Гэтым другім лічыцца муж пані Хлябіч, але дзе яму знайсці час на работу ў краме, калі на гаспадарцы працы тае, хоць задушыся!..

Асабліва ахвярна працуе цэлы персанал павільёна ў тыя дні, калі адбываецца перацэнка тавараў. Тады ўсе застаюцца пасля гадзін работы; прыходзяць, проста пруць да іх сваякі — швагры, швагеркі, дзядзькі і дзядзіны, сёстры і сястрычкі і хто там яшчэ з блізкіх ды далёкіх... І працуюць, і працуюць рук не пакладаючы, і перабіраюць — выбіраюць яны лепшанькія тавары, а ўсё сабе. Горшыя тавары па зніжаных цэнах заўтра выкупяць людзі чужыя.

Бандароўскаму павільёну не пашкодзіла б і санітарная інспекцыя, хаця б каб пакаштаваць таго старога піва, якое хоць ты лыжкай замешвай... Ды хто зробіць гэту інспекцыю, калі раённы санітарны інспектар Баршчэўскі ну зусім бяссільны! А таму такі слабы, што з'яўляецца ён шваграм пані Хлябіч.

Бачу пакрыўлены ад прыкрасці твар прэзаса міхалоўскага ГС-у, таму не буду больш цягнуць пераліку розных брыдкіх спраў, якія кідаюцца ў вочы тым, хто бывае ў гэтым павільёне. Хіба што прыгадаю яшчэ толькі тое мноства фарбы, скарыстанай на добраўпарадкаванне павільёна. Скарыстанай, так думаю, без ніякіх разлікаў, бо надта ж ніхто не шанаваў яе, браў, колькі хацеў... Ах!

Клён

# Ф·А·Л·Ь·К·Л·О·Р

### ВЯСЕЛЬНАЯ

Largo

Чо го, ма-мо, пры-за - пла - ка - ла -

сво-ю до-неч-ку про-сва-та-ла -та - ла

— Чого, мамо, прызаплакала —
свою донечку просватала,
свою донечку просватала.
Чого, мамо, прызасмутылась —
чы я тобіе надокучыла,
чы я тобіе надокучыла?
— Ты мне, доню, нэ докучыла,
докучалі подружэнькі твоі,
докучалі подружэнькі твоі.
— Як прыждэш, мамо,
нэдіелёнькі —
нэ зобачыш анэ діевонькі,
нэ зобачыш анэ діевонькі.
Будут діеўкі іты, співаючы, —
маміну хату мінаючы,
маміну хату мінаючы.
Маміну хату мінаючы —
мамі жалю задаваючы,
мамі жалю задаваючы.

Ой, пуйду я пуд ліесок на часок —
там учую солов'я голосок,
там учую солов'я голосок.
— Соловейку, моя пташэчко,
чы нэ був ты ў моёй стороніе,
чы нэ був ты ў моёй стороніе.
Чы нэ був ты ў моёй стороніе,
чы нэ плачут отэць, мать або мніе,
чы нэ плачут отэць, мать обо мніе?
— Воны плачут заліваюце —
тэбэ ў гості сподіваюце,
тэбэ ў гості сподіваюце.
— Нэхай плачут, хоч розорвуця —
мэнэ ў гості ны надіеюце,
мэнэ ў гості ны надіеюце.
— Як воны мэнэ ны жаловалі —
молоду замуж выдавалі,
молоду замуж выдавалі.

Ад Веры Кошаль, 1926 года нараджэння, і Надзеі Грушэўскай, 1942 года нараджэння, вёска Арэшкава гміны Дубічы Царкоўныя, запісаў 4 сакавіка 1975 г. Мікалай Гайдук. Нотная транскрыпцыя з магнетафоннай стужкі Людмілы Панько.

Песня належыць да „рэпертуару“ паненскага вечара.

# У НАШЫМ АБ'ЕКТЫВЕ

*Кампанія пад доглядам...*

## ЛЮДЗІ ДОБРАЙ РАБОТЫ

## ВАСІЛЬ КЕНДЫСЬ

Селянін Кендысь з вёскі Лазіцы з'яўляецца перадавым і заслужаным гаспадаром Гайнаўскай гміны. Гадуе ён 8 штук кароў, у тым ліку 6 дойных, ад якіх прадае на пункце скупкі 15 тысяч літраў малака ў год. Мае ён 5 гектараў дагледжаных зямельных угоддзяў, вялікі хлеў і клуню. Менавіта таму вопытны земляроб з Лазіцаў задумаў спецыялізавацца ў гадоўлі кароў.

Прыкладны гаспадар штогод намалочвае каля пяці тон збожжа. Дзяржаве прадае яго тры тоны. Найперш шмат папрацаваў ён над тым, каб палепшыць структуру зямельных угоддзяў, і цяпер яна ў яго ўжо не тая, чым была раней. Спажыткоўвае Васіль Кендысь некалькі тон мінеральных угнаенняў, але і збірае ў сярэднім 25-26 цэнтнераў жыта з 1 гектара.

Багатае ў Васіля Кендыся пагалоўе свіней. Да канца ліпеня гэтага года прадаў ён 16 кормнікаў.

За выдатныя сельскагаспадарчыя поспехі два гады таму назад працавіты гаспадар з Лазіцаў Васіль Кендысь быў узнагароджаны медалем „Заслужаны Беласточчыне“. Было гэта яшчэ перад Цэнтральнымі дажынкамі ў Беластоку. Атрымаў ён шмат дыпломаў.

Тэкст і фота **Я. Цялушэцкага.**

# РОДАМ З БЕЛАРУСІ

**Спісак польскіх палітычных і рабочых дзеячоў, народжаных на Беларусі.**

Марыя Багушэвіч (1865-1887) — нар. каля Слуцка. Дзеяч І Пралетарыяту, настаўніца.

Міхал Бжастоўскі (1762-1806) — нар. у Нясвіжы. Мінскі стараста, пасол у Чатырохгадовы сейм.

Міхал Валовіч (1806-1833) — нар. на Гродзеншчыне. Удзельнік Лістападаўскага паўстання, член Нацыянальнага камітэта Польшчы.

Фелікс Галавач — нар. у 1886 г. каля Ашмян. Народны дзеяч.

Стэфан Грабоўскі (1767-1847) — нар. у Асташыне. Генерал, міністр — сакратар па справах Польскага Каралеўства.

Далеўскія Аляксандр (1827-1862), Тытус (1841-1863) і Францішак (1825-1904) — нар. каля Ліды. Палітычныя дзеячы.

Аляксандр Лядніцкі (1866-1934) — нар. у Мінску. Палітычны дзеяч, адвакат.

Плавінскія Казімір (1859-1886) і Юзэф (1854-1880) — нар. у Магілёве. Арганізатары сацыялістычных гурткоў.

Зофія Плоска-Ануфровіч (1864-1922) — нар. у Калінкавічах. Дзеяч рабочага руху.

Казімір Петрусевіч (бацька) — (1872-1949) нар. у Навінах, што каля Слуцка. Дзеяч рабочага руху, арганізатар судовай сістэмы ў Народнай Польшчы.

Габрыель Чаховіч (1876-1938) — нар. на Міншчыне. Міністр фінансаў, адзін з заснавальнікаў Польскай радыкальнай партыі.

Пётр Ярашэвіч — нар. у 1909 г. у Нясвіжы. Старшыня Савета Міністраў Польскай Народнай Рэспублікі.

**П. Байко.**

# РАЗЛЕЗЛЫ СТАЯК

Вельмі добра, што побач рыбнага павільёна, які знаходзіцца ля вуліцы Варынскага ў Гайнаўцы, пастаўлены стаяк для веласіпедаў. Гэта выгада пакупнікам.

Але, як усяму ў свеце, прыйшоў канец і на той стаяк. Зрабіўся ён, падла, разлезлым — не трымае веласіпедаў, дык пачалі людзі іх ставіць звычайна, пад сцяною, незнарок аббіваючы тынк. Пані Вілюк, як загадчыца гэтага павільёна, павінна ўрэшце аддаць у рамонт той стаяк-калеку.

**Раса**

# НА РАЗГОНЕ

1 ліпеня пачаўся новы гаспадарчы год. Усе разлікі ў ГС-ах вядуцца паводле гаспадарчага, а не каляндарнага года. У ГС-е ў Орлі 1974/75 гаспадарчы год быў чарговым годам добрай працы, дынамічнага разбудоўвання сваёй скупачна-прадукцыйнай базы, далейшага ўдасканальвання паслуг.

Яшчэ не так даўно, бо ў 1968 годзе, арлянскі ГС плёўся ў хвасце, не выконваў планаў і меў на 50 тысяч злотых затрат. У той час давялося змяніць шэфа ГС-у. Ад 13 сакавіка 1968 г. узначаліў гэтую ўстанову новы прэзас, мясцовы партыйны дзеяч Уладзімір Якімовіч. І вось з яго прыходам, як сцвярджае намеснік прэзаса, Мікалай Ярымовіч, пачалося змаганне, каб ГС зрабіць з адсталага — перадавым. Вядома, адразу гэтага не зробіш, патрэбны час. І час ішоў, а ГС, які спачатку „вылез“ з недахопаў, памаленьку разгортваў усебаковую ГС-аўскую дзейнасць. З кожным годам вынікі паляпшаліся, і ў 1973 гаспадарчым годзе ГС дабіўся 822 тыс. злотых чыстага даходу і ў былым Бельскім павеце заняў першае месца па комплекснаму выкананню ўсіх задач. Атрымаў ад ВЗГС-у 10 тысяч злотых узнагароды.

У арлянскім ГС-е яшчэ раз пацвердзілася тое, што ад кіраўнічых кадраў, ад іх умелай працы, залежыць вельмі многа.

Вялікую ролю адыгрывае арлянскі ГС у павелічэнні сельскагаспадарчай вытворчасці. Многа ўвагі прысвячае ён мінеральнаму ўгнаенню сялянскіх зямельных угоддзяў. З гэтай мэтай арганізавана сетка магазінаў і пунктаў камісовага продажу. Заказы на прывоз большай колькасці мінеральных угнаенняў гаспадарам адбываюцца на кошт ГС-у.

Такім чынам давезена да сялянскіх сяліб 1070 тон NPK. План дастаўкі мінеральных угнаенняў у бягучым гаспадарчым годзе ГС выканаў датэрмінова, ужо 25 чэрвеня.

Цяпер кожны год ГС мае добрыя вынікі ў кантрактацыі і выкупцы збожжа. І так у 1974/75 годзе на план 1507 тон скуплена 2385 тон. У новым гаспадарчым годзе скупка будзе адбывацца яшчэ лепш. Устаноўлена, што калі гаспадар прадае дзяржаве збожжа больш як 2700 кг, тады ГС забяспечвае транспарт і пагрузку. Гэта форма скупкі на кошт ГС-у заахвочвае, проста прымушае многіх сялян прадаваць збожжа не менш, як 2700 кг.

Арлянскі ГС не толькі паспяхова ўдасканальвае формы скупкі, але таксама — у апошнія тры гады — паспяхова развівае скупачна-прадукцыйную базу. І так, коштам 1,5 мільёна злотых пабудаваны ў Орлі пункт скупкі жывёлы, а коштам 2,5 мільёна злотых — збожжава-кармавы склад, коштам 2,4 мільёна — гандлёвы павільён (прамысловы аддзел, тэкстыльны, галантэрэйны і з вопраткай, і за 9 мільёнаў злотых будуецца масарня і бойня. У вёсцы Маскоўцы ў будове падбаза ГС-у, якая хутка атрымае збожжавы склад мінеральных угнаенняў і пункт скупкі жывёлы.

Асабліва варта падкрэсліць той факт, што ГС пры сваёй сталовай вядзе адкорм свіней. У мінулым годзе, пачынаючы ад лютага і да канца года, адкормлена 144 штукі. І мяса гэта ідзе ў продаж для насельніцтва.

Адкорм свіней пры сталовых і рэстаранах з'яўляецца адной з важнейшых спраў харчовай базы. Гэта нявыкарыстаныя рэзервы. Практыку ГС-у ў Орлі варта і трэба распаўсюдзіць на ўсе існуючыя сталовыя і рэстараны.

**М. Хмялеўскі**

 



## ФОТА ПА ЗАКАЗУ

## KAREL GOTT

*Заказвалі Ірэна Троц з Рудут, Тося Палавянюк, Лена Артэмюк, Аня Асеннік з Парцава.*




Наша чытачка М. Ф. з Беластока просіць:

„Можа б ты, дарагі Астрон, растлумачыў мне, што абазначаюць мае два апошнія сны. У маёй сям'і неўзабаве маюць адбыцца некаторыя змены, і я вельмі непакоюся пра лёс маёй дачкі. Сны сняцца нейкія страшныя...

Быццам была я на панадворку ў маіх бацькоў, што жывуць на вёсцы. Меў там дэманстравацца фільм, і сабралася шмат людзей. І раптам бачу: кагосьці хаваюць, а людзі прыйшлі на пахараны. Я стаю ля могілак, а там вельмі многа кветак. Адзін куст бэзу ўпрыгожаны чырвонаю гваздзікаю. Не бачу ні крыжоў, ні магіл, адно ўпрыгожаныя кветкамі кусты...

Пасля снілася мне, што памерла мая дачка. Стаю я на могілках, над яе магілай. Магіла скромная, не ўпрыгожаная, проста насыпана зямлёю, парослай травой. Стаю і плачу. Вельмі шкада мне яе. Далей іду я дарогаю праз вёску і адчуваю, што мне холадна ў галаву і тут ззаду ў мяне бацька мой. Падыходзіць і накідае мне на голаў хустку, цёплую, ваўняную, белую. Я завязала, але гляджу ў люстэрка і мне ў ёй непрыгожа, думаю — трэба зняць. Прачынаюся".

Дарагая чытачка! Ваш непакой неабгрунтаваны. Сны вашы прадвяшчаюць добры паварот у вашых сямейных справах. Чакае вас нейкая вясёлая ўрачыстасць (аб гэтым сведчаць прыснīўшыеся вам пахараны) і сямейная радасць (вы ж плакалі...). Могілкі і кусты гарантуюць вам поспех у задуманай справе і здароўе. Кусты на могілках былі ўпрыгожаны чырвонымі кветкамі, а кветкі наогул абазначаюць нейкую прыемнасць. Чырвоны ж колер — колер крыві і агню — бывае сімвалам нейкага афекту. Таму можа мець значэнне як станоўчае, так і адмоўнае, у залежнасці ад розных сітуацый, прадстаўленых у сне. У даным выпадку, несумненна, мае добрае адценне.

Ну, што ж, дачка ваша была пакойніцай — дык у здароўі пражыве многа год. Чакае яе паспяховае завяршэнне нейкай справы (магіла ж яе парасла травою...). Адчуваецца, што маеце нейкія клопаты (бацька, здаровы). Добра, што не паспелі зняць белую ваўняную хустку (воўна заўсёды гарантуе поспех). Ёсць у вас, відаць, нейкія нядобразычлівыя і фальшывыя сябры-дарадчыкі (люстэрка), сцеражыцеся іх. Ад гэтага залежыць ваш поспех.

**Астрон**

## § Кансультацыя ЮРЫСТА

ПЫТАННЕ: Цесць будаваў дом і абяцаў зяцю, што той з сваёй жонкай атрымае кватэру, калі ён яму дапаможа будавацца. Зяць памагаў сваёй працай і грошамі, але калі дом быў закончаны, паміж ім і цесцем узніклі непаразуменні, і цесць забараніў зяцю займаць памяшканне. Нягледзячы на гэта, зяць самавольна заняў палавіну дома, гаворачы, што ён з'яўляецца супольным уласнікам і што ён улажыў у будову больш, чым цесць. Ці цесць мае права патрабаваць прымусовага высялення зяця? Якія правы прыслугоўваюць зяцю?

АДКАЗ: Дом, які стаіць на зямлі цесця, нават калі б быў поўнасцю пабудаваны зяцем, з'яўляецца ўласнасцю цесця. Таму цесць мае права патрабаваць высялення зяця, які самавольна заняў памяшканне ў гэтым доме. Зяць мае права патрабаваць звароту грошай, якія ён улажыў у будову дома, а таксама заплаты за ўложаную ў будову дома працу. Калі б цесць падаў у суд, зяць можа патрабаваць, каб суд узалежніў прымусовае высяленне ад адначасовага звароту ўсяго таго, што належыцца яму за ўдзел у пабудове дома.




Мне 18 год. Закончыла я сярэднюю школу і пакуль што працую на гаспадарцы. Маю я хлопца, з якім хаджу амаль два гады. Мы вельмі адзін другога кахаем. Але вясною Славэк пайшоў у войска. Сказаў мне, што як толькі вернецца з войска, дык пажэнімся. Славэк добры хлопец, працавіты, усе яго ў вёсцы паважаюць. Цяпер часта да мяне шле пісьмы. Я вельмі сумую па ім. Спачатку дык і ў кампанію не хадзіла, усё толькі дома сядзела. Ужо і мама гэта заўважыла і пачала намаўляць, каб я да дзяўчат ці на забаву ішла. І я, так сказаць, крыху раскруцілася. І толькі новых клопатаў нажыла, бо аднойчы на забаве пазнаёмілася з Лёнікам. Ён прыгожы, спадабаўся мне. Мы ўжо некалькі разоў сустрэліся і ён сказаў, што хацеў бы са мной ажаніцца. Я яму яшчэ не адказала, але думаю: Слаўка дык трэба яшчэ ж аж два гады чакаць, а Лёнік ужо па войску. Маме Славэк больш падабаецца, але ведаю, што не пярэчыла б, каб я захацела выйсці за Лёніка. Я ўжо і сама не ведаю, што рабіць. Парай, „Сэрцайка".

**Лена з Бельшчыны**

Лена! Ты ж пішаш, што вельмі кахаеш Слаўка. Дык чаму ж так хутка мяняеш яго на другога? Лёніка ты знаеш вельмі мала, няўжо ты яго таксама кахаеш? І ці ж магчыма кахаць двух адразу? Ты яшчэ маладая, замуж не спяшайся. Два гады хутка пройдуць, і напэўна не пагаснуць вашы пачуцці за гэты час. Вернецца твой каханы хлопец, тады і вырашыш, што далей рабіць.

**Сэрцайка**

## Куток практычных ведаў

### Якія акуляры?



Сонечныя акуляры — неабходная рэч летам, хаця бываюць патрэбныя і зімой, у сонечныя дні. Капрызная, аднак, мода змяніла функцыю акуляраў, і сёння яны часцей выконваюць ролю моднага ўпрыгожання, якое частка моладзі носіць цэлае лета, не знімаючы.

А варта ім ведаць, што цёмныя акуляры аслабляюць натуральную здольнасць вока прыстасоўвацца да змяняючыхся ўмоў асвятлення. Таму не варта насіць цэлы дзень цёмныя акуляры.

Карысна насіць акуляры дзеля аховы вачэй перад запыленнем — на экскурсіі, у падарожжы ці пры абмалоце збожжа.

І яшчэ адна важная справа. Варта глянуць крытычна, ці да твару нам у акулярах, якія прапануе мода.

Не кожная форма акуляраў падыходзіць да кожнага твару. Напрыклад, пры круглым твары варта насіць акуляры з тонкай аправай, з касымі лініямі, паднімаючыміся ўверх, пры квадратным твары — аправа акуляраў павінна быць амаль круглая; пры прамавугольным твары — лепш насіць таўсцейшую аправу, закругленую знізу і г.д. Прыгледзьцеся да здымкаў!

**Сяброўка**




Ён не хацеў паказваць немцу свае слабасці — крый божа не застагнаць — і, дапамагаючы сабе рукамі, устаў на ногі. У галаве адразу закалола, перад вачмі расплыліся рудыя кругі. Ён асцярожна і з вялікай натугай выпрастаўся, але не прастагнаў, стрымаўся. Трошкі пастаяўшы так, аслабела ступіў па друзе да дзіркі ў куце. Фрыц хацеў падтрымаць яго, але Валока ўпарта адняў руку.

Кульгаючы, немец падаўся туды таксама, першы далез да дзіркі і зазірнуў угору; за ім узабраўся на друз і Валока. Яму балюча было закідваць галаў, і баец не змог паглядзець угору. У той час недзе паблізу пратрашчала чарга, другая, пачуліся галасы — нехта крыкнуў, пасля там, наверсе, загаварылі не ціха і не гучна, але так, што слоў разабраць было нельга. Валока сцяў сківіцы; немец, паўразявіўшы рот, з абвостраным неспакоем у шэрых вачах паглядзеў на байца. Яны нічога не сказалі адзін аднаму і на нейкі час замерлі пад тою праломінай. Зноў трывожнае, як подых пагібелі, пытанне „хто"? секанула па іх свядомасці.

Але гамонка наверсе спынілася — можа, людзі адбегліся, а можа, замоўклі, — яшчэ праз хвіліну аднекуль здалёк данесліся доўгія кулямётныя чэргі. Нешта там адбывалася. З пачаткам новага дня ўсчыналіся новыя схваткі, і Валоку ахапіў неспакой.

— Трэба лезці. Туды, наверх, — паказаў ён немцу. Фрыц зразумеў, коратка пацвердзіў:

— Я-я, — і, пакульгваючы, замітусіўся, шукаючы, што б падкласці, каб зручней было дабрацца да дзіркі. З некалькіх кавалкаў бетону ён склаў невысокі падмостак, прымерыўся — трохі было нізка, тады ён скульгікаў уніз, прынёс каску і паклаў яе наверх. Так можна было ўхапіцца за край праломіны.

Ён і сапраўды ўхапіўся і нават, прыўзняўшыся на руках, выглянуў, але ў нерашучасці апусціўся зноў. Зноў на імгненне сустрэліся іх вельмі сур'ёзныя позіркі, але ніводзін нічога не сказаў другому — абодва толькі слухалі, як прастор наверсе калацілі стрэлы і стараліся як-небудзь угадаць, хто там. Толькі ўгадаць не было як.

Тады немец нахмурыўся, рашуча напяўся, скочыў, высіліўшыся на руках, упёрся здаровым каленам у край і апынуўся наверсе.

Некалькі секунд ён стаяў там, азіраючыся, а знізу на яго напружана глядзеў Валока. Баец з натугай трымаўся на нагах, у вачах хісталася наваколле, але цяпер — адчуваў ён — рашалася найбольшае, і ён з першай жа секунды не хацеў прапусціць яго. У Валокавай душы раптам узнялося нешта крыўдліва-пакутнае, нейкае адчуванне сваёй аслабеласці, падумалася нават, — немец падасца адсюль, і ён застанецца адзін у гэтай яме. Валока адчуваў у сабе ўжо выразны зачатак прыхільнасці да гэтага незвычайнага ворага — цяпер ён быў яму гэтак патрэбны, як бывае патрэбны ў бядзе таварыш.

Толькі немец нікуды не бег. Ён пераступіў ботамі ля самае дзіркі, агледзеўся, з-пад абцасаў шархотка пасыпаўся ў склеп пясок, і затым з дзіркі ледзь не па локаць высунулася яго рука.

— Іван, шнэль! Быстра!..

Валока ўзлез на падмостак, падняў насустрач руку, але немец незадаволена пераступіў, махнуў кісцю — спярша ён збіраўся пераняць аўтамат. Баец зняў ППШ з пляча, бяздумна сунуў яму і раптам спалохаўся. Аўтамат апынуўся ў немца, і Валоку — кароценька, на імгненне — здалося: абхітрыў! Аднак немец не збіраўся ў яго страляць, а з салдацкай беражлівасцю да зброі паклаў ППШ на дол і працягнуў у дзірку абедзве рукі.

Напяўшыся, Валока даў свае, немец моцна ашчаперыў іх, пацягнуў, баец упёрся ботам у сцяну, да болю сцяў сківіцы, каб не застагнаць, і бокам пераваліўся цераз край праломіны.

Так абодва яны апынуліся наверсе ў руінах вялізнага дома, канец якога, задраўшы ў неба ўцалелую тарцовую сцяну, стаяў, нібы агромністы помнік разбурэнням вайны. На сцяне другога ці трэцяга паверха коса вісела карціна ў пазалочанай раме, неяк трымаўся яшчэ пасечаны асколкамі габеленчык з лясямі; зачапіўшыся за нешта, тырчаў дагары нагамі ложак з металічнаю сеткай. У выбітым, недарэчным цяпер на выгляд, акне варушылася на ветры фіранка. Ад вуліцы гэтае месца адгароджвала другая сцяна, якая рухнула ўнутр дома і вялізнаю плахай касабочылася ўгору з-пад самых іх ног. Там, недзе за вуліцай, у праяснелым ужо ранішнім небе ціха краталіся верхавіны ліп, у скверы, ля якога ўчора хаваўся ад бомбаў Валока.

Яны трошкі аддыхаліся, услухаліся: зноў стала выразна чуваць, як блізка на вуліцы, страляючы, беглі людзі. Данесліся і крыкі, толькі Валока не разабраў слоў, а немец, раптам устрапянуўшыся і размахваючы рукамі, кінуўся па друзе ўгору. Аднак бегчы ў ламачы было не дужа зручна, ды ён яшчэ і кульгаў, але ўсё ж далёка адарваўся ад байца, які, ледзьве перастаўляючы ногі ў грудах цэглы, брыў следам. Фрыц першы дабраўся да таго месца, адкуль можна было саскочыць на вуліцу, выпрастаўся ўсёй сваёю паджарай постаццю на фоне нябеснае яснасці, і тады Валока вельмі выразна і непапраўна, як смерць, пачуў узрадаваныя галасы ворагаў:

— Хагеман! Хагеман! Ком! Ком! Хагеман!

(Заканчэнне ў наступным нумары)



 

# ТРЫБУНА чытачоў

## Гаспадар, які не пакладае рук

Аб тым, што на малой гаспадарцы можна добра жыць, ведаюць ужо многія. Пераканаўся ў гэтым і Уладзімір Данілюк з Маліннік, што ў Арлянскай гміне. У яго ўсяго 4,81 гектара зямлі. Спецыялізуецца ён у жывёлагадоўлі: мае тры каровы і дзесяць кормнікаў. Ужо прадаў ён дзяржаве пяць кормнікаў і да канца года прадасць іх яшчэ шэсць штук. Разам — каля паўтары тоны мяса.

Уладзімір Данілюк удзельнічаў у конкурсе „Беластоцкая вёска гаспадарная і культурная“. За дасягненні, якіх дабіўся ён на сваёй гаспадарцы, узнагародзілі яго ганаровай граматай.

За апошнія гады пабудаваў ён мураваны хлеў і клуню. Зараз збіраецца будаваць дом.

**(М-ка)**

## Старыя на станцыі

Нярэдка на станцыі бачыш старых, пакінутых людзей, у якіх у адной руцэ кіёчак, а ў другой — пляшка з вадою ды вузялок за плячыма. Яны чакаюць свайго цягніка, які ніколі не прыедзе...

Жаль сціскае сэрца, калі глядзіш на іх. У галаве ўзнікаюць пытанні: дзе іх дзеці, дзе іх хата, чаму яны тут??? Хто іх выгнаў і каго-чаго шукаюць яны?

**Ніна Ясвіловіч**

## Вуліца ўжо з асвятленнем!

У жніўні мінулага года пісаў я аб неасветленай вуліцы ў Кузаве (ад станцыі ў вёску). З прыемнасцю хачу сёння паведаміць, што дзякуючы захадам упраўлення Чаромхаўскай гміны, на гэтым месцы ўжо заложаны электрычныя лямпачкі. Вуліца ў Кузаве, на ўсёй сваёй даўжыні, мае электрычнае святло. Дзякуем Чаромхаўскай гміне!

**Мацейка**




## ПАГАВАРЫЛІ

*Іх усіх было чатыры,*
*Сталі жыць ў адной кватэры.*
*Усім вядома, разам жыць —*
*Даводзіцца й гаварыць.*
*Раз спытаў ўсіх Віця Буры,*
*Гаваркі, сангвінік з натуры:*
*Хто што лічыць найцаннейшым,*
*Увогуле — найдаражэйшым?*
*Першы буркнуў Мурза Толік,*
*Задубелы меланхолік:*
*Мне ўсё тое дарагое,*
*Што не фэкае — благое.*
*А мне найцаннейшае жыццё —*
*Выказаўся Буры Віця*
*Быць здаровым, мець і грошы*
*Да таго ж жонку харошу.*
*Я з табою згодны, Віця,*
*Мудра цэніш, братка, жыцце,*
*Я ж цаню грошы, лад,*
*Як сусед суседу рад.*
*Злагоду цаню я зроду,*
*Найцаннейшым лічу згоду, —*
*Сказаў Юрка Недатык,*
*Надпрыкладны флегматык.*
*Ну й вы ж туманы, браткі! —*
*Гукнуў злосна Стась Гладкі.*
*То ж найдаражэйшы рэчы:*
*Розум, гонар чалавечы!*
*Уроджаны талент — дар*
*Не здабудзе нават цар,*
*Ні за які скарбы ў свеце,*
*Гэта знаць павінны й дзеці,*
*Не но вы, мае браткі!*
*Быў натурай Стась Гладкі,*
*Шчыры і катэгарычны,*
*Тэмперамент халерычны,*
*Голас уніклівы — высокі,*
*Ліў, як з цэбра слоў патокі,*
*Усё зямное ператрос,*
*Здабываць пачаў касмос,*
*Рушаў усе праблемы жыцця...*
*Драмаў, кляваў носам Віця.*
*Толік ціхамерна спаў.*
*Юрка слухаў й дзіваваў,*
*Пазіраўшы Стасю ў рот.*
*Думаў: вось дык кулямёт!*
*Як гарохам сыпле, братка,*
*Ну й мяніць языкам гладка,*
*Не спаткнецца ані раз!*
*Бы трашчотка...*

**Дзядзька Квас**

## Дзіцячы садзік у Кнаразах

Лета. Нямала турбот жыхары вёсак маюць з малымі. Вядома, дзіця далезе да запалак ды наробіць пажару... Бяда не чакае.

У Кнаразах, што ў Храбалоўскай гміне, дзяцей многа і, вось, думай думку, куды падзець іх у жніво?! Дадумаліся наладзіць у школьным будынку дзіцячы садзік, які вядуць дзве маладзенькія выхавацелькі — дзяўчаты з Бельска. Дзякуючы такой форме апекі над дзяцьмі, бацькам спакойна на душы і яны бестрывожна выходзілі ў поле.

**Джэны А.**

## АЛЯ ШАБЕЛЯН



Аля Шабелян, вучаніца Гайнаўскага беларускага ліцэя, актыўна супрацоўнічае з мясцовым аддзелам Беларускага грамадска-культурнага таварыства. Яна шмат дзейнічае на ніве культурнага развіцця свайго роднага асяроддзя ў вёсцы Семяноўка.

У школе Аля, апрача добрых ацэнак, дабіваецца таксама выдатных вынікаў у спартыўных занятках.

**Б. В.**

## Зямля перайшла ў добрыя рукі

Крынкаўскі ПГР-гігант прыняў каля пяці тысяч гектараў пакінутых зямель на тэрыторыі гмінаў Крынкі, Шудзялава і Бабікі. Забяспечыў ім добры догляд, вапнаванне і мінеральныя ўгнаенні.

Наогул гэта слабыя землі, камяністыя. Давялося праводзіць ачыстку іх. З дапамогай машын вывезены нават такія каменні, якія важылі па тры-пяць тон!

ПГР сее рапак, пялюшку, сырадэлю, жыта, ячмень. Апырскванне хімікатамі, якія знішчаюць пустазелле, праводзіцца самалётам. Сеюць ім нават і збожжа. Калі ўвесну першы раз пачалі сеяць самалётам, дык людзі казалі, што самалёт гэты можа быць добры для апырсквання палёў хімікатамі супроць пустазелля, ну, яшчэ для распыльвання на глебы мінеральных угнаенняў, але — не для сяўбы збожжа! Цяпер убачылі, што яны не мелі рацыі, што сяўба самалётам таксама ўдаецца, ды ўдаецца добра.

**Т. К.**

## Дарога падобна на роў

Дарога з Лушчоў у Чыжы на пэўным участку, даўжынёю каля 150 метраў, з'яўляецца настолькі цяжкай ды з глыбокімі каляінамі, што ўвесну або ўвосень воз датыкаецца восямі да зямлі. Ну, проста роў яна, а не дарога!

Аб'язджаючы гэты ўчастак, гаспадары робяць шкоду гаспадарам, знішчаюць пасевы. З прычыны таго чартоўскага кавалка дарогі гаспадары з Каменя, Курашава, Лядаў і Лушчоў сваё збожжа і жывёлу возяць у чыжоўскую скупку цераз Лянева. Яны трацяць многа часу зусім непатрэбна.

Ці нельга падумаць аб тым, каб гэты злашчасны участак дарогі паправіць супольнымі сіламі гаспадароў з навакольных вёсак? Ёсць жа ў нашых вёсках актыўныя людзі, якія павінны заняцца гэтай справай і паставіць яе на нейкім грамадскім сходзе.

**Я. М.**

## Сцеражыцеся цыганак!

У Гайнаўцы, у таргowыя дні круцяцца цыганкі, якія намаўляюць прахожых, каб ім паваражыць. Яны часамі амаль сілаю прымушаюць да сваёй варажбы, бо ім, вядома, надта патрэбны грошы. Шукаюць даверліўцаў, каб з іх выдаіць залатоўкі. Нядаўна адной трынаццацігадовай дзяўчынцы цыганка паваражыла, і тая дала ёй сто злотых ды папрасіла рэшты. Цыганка толькі засмяялася і ніякай рэшты з гэтай сумы, вядома, не дала. Дзяўчынка пайшла плачучы дамоў. Вось табе і паваражыла!

**Я. М.**

## Дзяўчаты з Плёсак

Падчас Свята Адраджэння ўдала выступіў у Бельску спявацкі калектыў з Плёсак: Барбара Брустовіч, Зося Іванюк, Рая Іванюк, Дануся Ляшэўская і Ліда Аксенцюк.

Гэта новы калектыў, які ўзнік на месцы папярэдняга. Выступаў ён ужо ў Саках, Дубічах Царкоўных, Храбалах і іншых мясцовасцях. Яго акампаніятарам з'яўляецца вядомы музыка Пятро Нявінскі з Бельска. Канферанс'е была Валя Васілюк.

Дзяўчаты-спявачкі з Плёсак павінны больш зацікавіцца беларускім рэпертуарам, а таксама мясцовымі фальклорнымі песнямі. Тады будуць яны мець шанц на арыгінальнасць, непаўторнасць.

**Міхась Матвеюк**, Бельск.

## Ад наступнага года

Гайнаўская будаўнічая арцель узводзіць новы пасёлак ля вуліц 1-га Мая і Леніна, насупраць бальніцы.

У гэтым пасёлку будзе жыць каля пяці тысяч асоб. Пабудаваны ўжо два дамы, узвышаюцца сцены трэцяга, а пад чацвёрты — робяць фундаменты.

На рагу вуліц Леніна і 1-га Мая будзе па-сучаснаму абсталяваны рэстаран, між іншым, і для патрэб турыстаў, што наведваюць Гайнаўку і Белавежскую пушчу.

Будаўніцтва пасёлка закончыцца праз тры гады. У наступным годзе пасяляцца тут першыя жыхары гэтага пасёлка.

**Э. Вайсковіч**

## Галадоўскія яйкі

Галадоўскія гаспадыні прадаюць у тыдзень каля чатырохсот пяцідзесяці кілаграмаў яек. Гэта больш дваццаці скрынак. У кожнай скрынцы па 21 кілаграм або 360 штук. Вось колькі яечак!

Некаторыя гаспадыні маюць нават па сто курэй. Аднак яшчэ ніхто ў Галадах не надумаўся спецыялізавацца ў птушкагадоўлі, заснаваць ферму. Гэта тым болей незразумелае, калі ўзважыць, што такая птушкаферма дае значны даход.

**Валянцін Анапюк**

## Дурны прыпынак

У Слойцы знаходзяцца ростані дарог на Крынкі і Бабікі. Тут быў і прыпынак для аўтобусаў. Яго некалькі разоў пераносілі, быццам нажортая кошка мыш у зубах... Урэшце якісьці целяпайла рашыў завалачы прыпынак той метраў трыста за Слойку, у напрамку Саколкі, у даліну пад гарою.

Аўтобус з бабіцкай старонкі даязджае толькі да Слойкі. Калі ж табе трэба ехаць у Шудзялава або Крынкі, дык, злезшы з бабіцкага аўтобуса, пры да таго прыпынку пад гарою, трыста метраў, аж табе духі вылазяць! Не паспееш дабегчы — стой і чакай наступнага аўтобуса ды лічы зайцаў у полі.

На гэты прыпынак, што ў даліне пад гарою, прыходзяць людзі з навакольных вёсак Азярок, Равок, Варатынішчына, Белы Луг і іншых. Ім далёка да гэтага прыпынку, бо да яго ж трэба ісці цераз Слойку. Хтосьці паклапаціўся, каб наш гаспадар меў на тыя трыста метраў бліжэй да Саколкі або на трыста метраў даўжэй раскошнай язды ў Крынкі. Цяшы, браток, у поле ды ўсё пад гару!

Можна сказаць, што чалавек, які распарадзіўся перамясціць прыпынак для аўтобусаў аж на трыста метраў за вёску Слойку, зрабіў тое на злосць мясцовым людзям або з вялікай дурнаты!... Клянуць таго мудраца таксама і шафёры аўтобусаў, якім у галалёдзіцу цяжка рушыць машыну з прыпынку пад высокай гарою.

**Ніяк**

## Ці не сорамна вам, кузаўскія дон-жуаны?

У Кузаве ёсць святліца, якую пабудавалі жыхары вёскі. Цяпер змяшчаецца ў ёй клуб „Руху“. З даўных-даўна святліцаю апекавалася моладзь. Дзяўчаты і хлопцы ўпрыгожвалі свой клуб, рабілі рамонт. Будынак абгарадзілі сеткаю. Словам, быў гэта іх дом.

Зараз нешта змянілася ў Кузаве. Моладзь не дбае пра лад у сваім будынку. Аж непрыемна глядзець, у якім стане знаходзіцца агароджа: бетонныя слупы паламаныя, сетка парваная... Гэта нядобра сведчыць аб кузаўскіх кавалерах.

Былі нават грошы (з танцавальных вечарын), якія можна было выкарыстаць на рамонт. Ды грошы тыя разыйшліся на „свае патрэбы“.

Гледзячы на задрыпаную святліцу ў Кузаве, ажно язык свярбіць ад таго, каб запытаць:

„Няўжо вам не сорамна, паважаныя кузаўскія дон-жуаны?“

**Кактус**

## ДЗЕ? ШТО? КАЛІ?

У аўторак пад вечар 29 ліпеня паміж Храбастоўкай і Кутавою зваліўся пад колы свайго воза грамадзянін А., на якога наехаў яшчэ і наступны воз. Чалавек памёр.

У той жа дзень грузавы „Стар“ наехаў раніцай на фурманку грамадзяніна Е. з Юраўцаў, каля Васількова. Гэтым разам ніхто моцна не быў пакалечаны.

Два дні раней у Крупніках Андрэй Ц. з Рагоўкі моцна пакалечыў „Волгай“ 68-гадовага Ёзіка С., якога давялося хутка завезці ў бальніцу.

У сераду 30 ліпеня, позним вечарам, пан Генрык з Беластока, відаць, спяшаючы дамоў, ехаў легкавой машынай настолькі хутка, што яе не толькі закінула, але і перакінула... Пасажыры пана Генрыка — Ніна і Галіна, засталіся жывымі і нават не вельмі пакалечанымі. Рамонт машыны будзе каштаваць каля пятнаццаці тысяч злотых.

## У АДКАЗ НА НАШУ КРЫТЫКУ

### ЁСЦЬ МЛЫНКІ

**Адказвае:**

**Gminna Spółdzielnia „Samopomoc Chłopska” w Hajnówce.**

W związku z waszym pismem z dnia 18.VII. 1975 r. dot. zakupu młynka-śrutownika Gminna Spółdzielnia „Samopomoc Chłopska” w Hajnówce informuje, że zgodnie z przeprowadzoną rozmową z Kierownikiem Składnicy Maszyn w Hajnówce (obecnie ta składnica podlega pod WZGS Białystok), przydziały na młynko-śrutowniki są kwartalne i są sprzedawane na listy w/g kolejności zgłoszeń nabywców.

Dlatego też wasz korespondent winien zgłosić się do Składnicy Maszyn w Hajnówce, ul. Górna, w celu zapisania się na listę.

**Prezes Zarządu GS**
**J. Chilimoniuk**

### У ЧАРОМХАЎСКАЙ ПКП — АДЗІН ЛЕКАР

**Тлумачыцца:**

**Obwodowa Przychodnia Lekarska PKP w Białymstoku.**

Nawiązując do notatki prasowej w „Niwie” nr 18 (1001), p.t. „Życzenie kolejarzy”, dotyczącej pracy Rejonowej Przychodni Lekarskiej w Czeremsze, Obwodowa Przychodnia Lekarska w Białymstoku uprzejmie informuje, że z chwilą odejścia w stan spoczynku lekarza dentysty Ob. Aliny Leźnickiej, Obwodowa Przychodnia Lekarska czyni starania w zatrudnieniu drugiego lekarza dentysty w Rejonowej Przychodni Lekarskiej PKP w Czeremsze. Z braku chętnych podjęcia pracy na tym terenie, nadal pozostaje tam w zatrudnieniu jeden lekarz dentysta.

Obwodowa Przychodnia Lekarska nie jest w stanie zabezpieczyć na terenie Czeremchy całodobowej opieki lekarskiej podopiecznym PKP. W Zakładach Opieki Zdrowotnej powołane są do tego działy pomocy doraźnej — dawniejsze stacje Pogotowia Ratunkowego. To one w nagłych wypadkach udzielają pomocy lekarskiej dla całej ludności zamieszkałej na terenie działania ZOZ, a w szczególności po urzędowych godzinach pracy lecznictwa otwartego. Zaś dyżury nocne lekarzy prowadzone są jedynie w zakładach lecznictwa zamkniętego.

Zatrudnienie lekarzy kolejowej służby zdrowia również w porze nocnej pozbawiłoby opieki lekarskiej przeważającej liczby podopiecznych PKP, ponieważ jedyny lekarz nie byłby w stanie pracować przez okrągłą dobę...

**Dyrektor**
**(lek. Jan Skok)**

„Niwa” — Skr. poczt. 149. 15-950 Białystok. TELEFON 2-32-41. Wydawca Przedsiębiorstwo Wydawniczo-Kolportażowe RSW w Białymstoku. PRENUMERATA: Oddziały „Ruchu”, urzędy pocztowe i listonosze. Indeks 36911/36671.

